БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

12 ліпеня 1994 г.
Аўторак
№ 75 (13792)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года



*Малюе Віктар ДУБОВІК*

## Кур'ер "ЧЗ"

### АБРАНЫ ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У выніку ўсенароднага галасавання першым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь абраны Аляксандр ЛУКАШЭНКА — народны дэпутат, старшыня "антыкарупцыйнай" парламенцкай камісіі, якому 30 жніўня споўніцца 40 гадоў.

Згодна з папярэднімі данымі Цэнтральнай камісіі па выбарах першага прэзідэнта Беларусі, у нядзелю за Аляксандра Лукашэнку аддалі свае галасы больш чым 81 працэнта выбаршчыкаў, за Вячаслава Кебіча — 14,2 працэнта. У другім туры Аляксандр Лукашэнка набраў 4,2 мільёна галасоў, што на паўтара мільёна больш, чым у першым туры, які праводзіўся 23 чэрвеня. Усяго ў выбары першага беларускага прэзідэнта ўдзельнічала 69,9 працэнта грамадзян рэспублікі, унесеных у выбарчыя спісы.

### Аляксандр АБРАМОВІЧ: "Выбары адбыліся, парушэнняў не адзначана"

*— Сёння Беларусь ужо з поўным правам можа называцца прэзідэнцкай рэспублікай, паколькі адбыліся выбары першага прэзідэнта, — заявіў старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах Аляксандр Абрамовіч, адкрываючы прэс-канферэнцыю, прысвечаную вынікам другога тура галасавання за кандыдатаў на вышэйшую пасаду дзяржавы.*

І хоць жыццё ідзе сваім ходам, а панядзелак хіба што больш гарачым надвор'ем адрозніваецца ад мінулай нядзелі, 10 ліпеня стала сапраўдным лёсавызначальным днём. Як было зноў пацверджана на прэс-канферэнцыі, паводле папярэдніх звестак, за Аляксандра Лукашэнку ў дзень выбараў прагаласавала 4219991 чалавек, а гэта значыць, што ён набраў крыху больш за 81 працэнт галасоў выбаршчыкаў. Так што з упэўненасцю можна сказаць: у жыцці рэспублікі чакаюцца перамены. Як хутка яны пачнуцца, застаецца толькі меркаваць, паколькі Аляксандр Лукашэнка заступіць на пасаду прэзідэнта Беларусі толькі пасля прыняцця прысягі, якое павінна адбыцца не пазней чым праз два месяцы пасля афіцыйнага падвядзення вынікаў галасавання.

Дарэчы, Аляксандр Абрамовіч паведаміў журналістам, што раніцай 11 ліпеня спрабаваў звязацца з прэтэндэнтамі на прэзідэнцкую пасаду, каб паведаміць ім папярэднія вынікі выбараў, але ні ў аднаго з іх тэлефон не адказваў.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Адстаўка Вячаслава КЕБІЧА

*Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Кебіч заявіў аб сваёй адстаўцы.*

У афіцыйнай заяве кіраўнік урада і былы кандыдат на прэзідэнцкую пасаду тлумачыць сваю пазіцыю. У прыватнасці, В.Кебіч зазначае: "Мы абмеркавалі сітуацыю ва ўрадзе, і сёння я не бачу магчымасці працягваць работу ў якасці Старшыні Савета Міністраў і заяўляю аб сваёй адстаўцы. Іду на гэты крок спакойна, з разуменнем сваёй адказнасці за праведзеную за гэтыя гады работу. Мы дапусцілі шэраг памылак, думаю, аб іх будуць і аб'ектыўна, і неаб'ектыўна гаварыць. Час дасць магчымасць ацаніць, у чым мы мелі рацыю, а ў чым памыляліся. Думаю, людзі не раз успомняць і гэтыя выбары, і наш урад".

В.Кебіч падкрэсліў, што вышэйшай сваёй заслугай лічыць стабільнасць, мір і спакой на Беларусі.

### Мы выбралі, яны разважаюць

*Вынікі выбараў у Беларусі і на Украіне актыўна каменціруюцца замежнымі сродкамі масавай інфармацыі.*

У абедзвюх суседніх краінах стала фактам, што выбары адбыліся. Найменшую актыўнасць, праўда, выявіла беларуская сталіца, дзе, відаць, найбольш усведамлялі адсутнасць рэальнага выбару змен. Тым не менш Аляксандр Лукашэнка перамог даволі ўпэўнена і грунтоўна. Як кажуць назіральнікі, да яго ў параўнанні з папярэднім этапам адышла значная частка электарату не толькі Дубко, Новікава, Шушкевіча і Пазьняка, але нават і Кебіча. Немалую ролю адыграла і змена пазіцыі ў "разыгрыванні расійскай карты". Стаўка на Беларусь як дзяржаву "са сваімі інтарэсамі", аказваецца, даўно перастала быць інтэлігенцкай утопіяй і шырока падтрымліваецца народам.

Перамогу незалежніцкіх тэндэнцый, як зазначаюць замежныя журналісты, прадэманстравала і Украіна, дзе толькі ў шэрагу ўсходніх абласцей верх узяў Л.Кучма, а паўсюдна перамог Л.Краўчук.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

### Ціха-ціха пад кустом...

*У ноч з 10 на 11 ліпеня дзве выбарчыя урны з некалькімі тысячамі бюлетэняў для галасавання знайшлі прытулак пад кустом. Супрацоўнікі ўнутраных спраў выявілі іх у раёне Мінскага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі і на вуліцы Танкавай.*

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛІНФАРМа ў прэс-службе Міністэрства ўнутраных спраў, аб прапажы урнаў ні адзін з выбарчых участкаў не заяўляў. Паходжанне начных "сувеніраў" трэба будзе вызначыць Ленінскай і Фрунзенскай раённым выбарчым камісіям Мінска.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Курсы валют на 11 ліпеня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 25515 | 26300 | 16065 | 16600 |
| "Прыор" | 25700 | 26300 | 16290 | 16670 |
| "Пошук" | 25300 | 25800 | 15600 | 16200 |

ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: КРОКІ НАД "І"

# Двайное "зацьменне" Аляксандра ЛУКАШЭНКІ

☐ **Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"**

*Яно стала фактам. Аляксандр Рыгоравіч "зацьміў" сваіх супернікаў двойчы. Першы раз — 23 чэрвеня, другі — пазаўчора. Прычым, у мінулую нядзелю ягоны поспех быў сапраўды трыумфальным.*

Па шчырасці, такое трыумфальнае шэсце да прэзідэнцтва менавіта Лукашэнкі цяжка назваць вялікай неспадзяванкай, яно прагназіравалася. Зразумела, тымі, хто не жадаў заплюшчваць вочы на рэальную сітуацыю ў раскладзе палітычных прыярытэтаў. Шлях Аляксандра Лукашэнкі да прэзідэнцкага "прастола", вядома ж, не быў усыпаны ружамі, аднак беларускае палітычнае сонцастаянне адбывалася пры такім збегу акалічнасцей, што, па меншай меры, частка перашкод на гэтым шляху знікла нібыта сама па сабе, іншыя "бар'еры" пабурыліся не без намаганняў самога прэтэндэнта. Цяпер можна казаць аб "феномене Лукашэнкі" і (што асабліва цікава і адметна, бадай, для замежных экспертаў) аб натуралізацыі "расійскага аналага", не стаўшага явай у Маскве. Варта адзначыць: Аляксандр Лукашэнка ледзь не на сто працэнтаў рэалізаваў "мафіёзныя" дывідэнды, якімі не здолеў скарыстацца расійскі барацьбіт з карупцыяй Аляксандр Руцкой. Хаця прычыны пераможнага шэсця "беларускага Руцкога" па палітычным гасцінцы — глыбейшыя і не ляжаць на паверхні. Давайце коратка скажам пра агульны фон, які адцяняў карціны і сцэны апошняга часу. Але спачатку прывядзём колькі папярэдніх лічбаў другога тура выбараў.

Па абласцях пададзеныя галасы размеркаваліся наступным чынам: Магілёўская вобласць — за Лукашэнку прагаласавала 86,5 працэнта, за Кебіча — 11,8, Брэсцкая — адпаведна 84,7 і 10,3, Мінская — 82,4 і 12,2, Віцебская — 90 і 15,2, Гродзенская — 78,1 і 12,6, Гомельская вобласць — 77,3 і 18,1 працэнта. У сталіцы на карысць Лукашэнкі выказаліся 69,9, за Кебіча — 19,8 працэнта.

А цяпер — пра фон. Пасля ўтварэння СНД (хаця працэс паволі развіваўся з канца васьмідзесятых) усе былыя рэспублікі Саюза перажываюць перманентны глабальны крызіс. Дарэчы, ускосным пацвярджэннем згубнасці дэзінтэграцыі стала імгненнае прызнанне цывілізаваным светам нованароджаных незалежных дзяржаў — каму ж патрэбны моцны канкурэнт, тым больш звышдзяржава? У гэтай крызіснай смузе мала прасветаў. Жыццё пры нядаўнім рэжыме падаецца, прынамсі, дастаткова стабільным і заможным. Вярнуцца назад нельга. Аднак інтэграцыйныя маякі з рубінавым адценнем вельмі многім даюць пэўную надзею на будучыню. І справа не ў ідэалагізавана-слоўным флёры (у цэнтр, як ні дзіўна, шпарка рушылі прэтэндэнты на прэзідэнцтва, прычым, літаральна ўсе, нават з перыферыі палітычнага спектра), справа — у канкрэтнай і паслядоўнай логіцы такой пазіцыі. Яе і прадэманстраваў Лукашэнка. І тут трэба сказаць пра характэрны момант, які кардынальна паўплываў на канчатковы зыход прэзідэнцкага марафона.

Тое, што "пераможа" інтэграцыйная ідэя, было відавочна. Нацыянальны глянец на фігурах вядомых палітыкаў-адраджэнцаў патроху цьмянеў і блякнуў у промнях рэчаіснасці яшчэ да наступлення вырашальных падзей у барацьбе за ўладу. Таму іх адноснае паражэнне ў першым туры (адноснае, бо агульны электарат Пазьняка і Шушкевіча пры дасягненні імі згоды даваў магчымасць аднаму з названых кандыдатаў выходзіць на фінішную прамую, праўда, без якіх-небудзь надзей на перамогу) не проста прагназіравалася, а і падавалася непазбежным. Іншая справа — паражэнне прэм'ера. Яго абумовіла (гэта і стала характэрнай адметай выбараў) якраз наяўнасць, так бы мовіць, канкурэнта-двайніка. З той розніцай, што апошні па ўсіх стандартах "трафарэтнай праўды" і логіцы выбарчай барацьбы без усялякага сумнення станавіўся яўным фаварытам. Задоўга да чэрвеньскага і ліпеньскага волевыяўлення. Недаацэнка такога фактару высокапасаднымі аналітыкамі-прагназістамі не можа не здзіўляць. Аднак, ён, што называецца, меў месца. Сам прэм'ер, па ўсёй верагоднасці, хай і з пэўнай доляй скепсісу, ангажыраваным прагнозам давераў. Адсюль і шырока тыражуемыя пасля прамежкавага фінішу размовы аб "мядзведжай паслузе" некаторых чыноўнікаў, якія намагаліся занадта прымітыўнай клішыраванай прапагандай дапамагчы свайму патрону. Вынік, як вядома, атрымаўся адваротны — спрацаваў эфект бумеранга, аб чым і папярэджвалі розныя аўтары на старонках выданняў, якія імкнуліся да аб'ектыўнага асвятлення рэальнай палітычнай карціны. "Мядзведжая паслуга", вядома, была, аднак не яна адыграла галоўную ролю. Калі б гэтак, другі тур прынёс бы іншыя вынікі, бо агітацыйны імпэт перад ім у значнай ступені замяніла больш зграбная і неназойлівая прапаганда. Калі б не паявіўся на палітычным небасхіле Лукашэнка, можна было планаваць падобную выбарчую спрынтэрскую эстафету без асаблівай рызыкі. Тым больш — выбар гіганцкіх фігур правіцеляў даволі багаты. Ну не адзін, дык другі, а "над схваткай" — памяркоўны трэці. Лукашэнка пабурыў урадавы стэрэатып, заняўшы ў народнай свядомасці і на палітычнай авансцэне месца "воіна-ратавальніка". Што вельмі лагічна, калі ўлічыць абурэнне, крыўду соцень тысяч і мільёнаў простых людзей на ўсіх без выключэння ўладатрымальнікаў — сённяшніх і ўчарашніх (без падзелу на чырвоных і бела-чырвона-белых). Цікава, што сам Вячаслаў Францавіч не без крыўды зазначыў у ходзе тэледэбатаў: праграма Лукашэнкі — ідэнтычная праграме ўрадавага прэтэндэнта, але ж апошняя паявілася раней за распрацоўкі Аляксандра Рыгоравіча. Позняя заўвага, перамагаць сітуацыю было ўжо нельга.

Такім чынам, Аляксандр Лукашэнка двойчы "зацьміўшы" астатніх змагароў за пасаду, мэты сваёй дасягнуў. І зрабіў гэта вельмі пераканаўча, даказаўшы яшчэ раз, што ён — палітык-прагматык. Калі ў двух словах падагульніць прычыны перамогі, трэба вылучыць таксама дзве "рэчы ў сабе", два фактары, якія дапамаглі дасягнуць такой перамогі. Фактар першы: пазіцыя, праграма дзеянняў, перспектыва палітыка-эканамічнага развіцця рэспублікі пры прэзідэнце Лукашэнку (яго прыярытэты аказаліся сугучнымі памкненням людзей і, што вельмі важна, не занадта разыходзіліся з урадавымі распрацоўкамі). Фактар другі: паводзіны Лукашэнкі пад час "адкрыцця" эфірных каналаў публічнасці. Ён лепш за іншых выкарыстаў магчымасці электроннай магіі прамога эфіру, асабліва ў параўнанні з прэтэндэнтамі, якія загружалі яго блокамі ў запісе і відэаклiпамі. Хаця пасля чэрвеня адбылася пэўная "ракіроўка", і прэм'ер нібыта пачаў выконваць ролю апазіцыянера: разбежка ў пададзеных за Лукашэнку і Кебіча галасах была занадта адчувальнай. Няцяжка было зрабіць вывад: задача цяпер, хутчэй за ўсё, не ва ўласнай перамозе, а ў адцягненні тых самых запаведных галасоў ад удачлівага канкурэнта. Народ не паверыў, ды й гульня была не філіграннай. Вось і пацвердзілася: можна ўзводзіць у мроях нават і прэзідэнцкі палац, а наяве атрымаць замак на пяску.

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

**"Еўраньюс"**

### ФРАНЦЫЯ РЫХТУЕЦЦА ДА СВЯТА

*Францыя рыхтуецца да Дня вызвалення.*

Звыш 34 лепшых караблёў свету, якія ігралі ў гісторыі важную ролю, стануць цэнтральным відовішчам свята. Больш за 7 мільёнаў гасцей прымуць удзел у святкаванні.

### КЛІНТАН У ГЕРМАНІІ

*Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан прыбыў у Германію з Неапаля.*

Адбылася ўрачыстая цырымонія сустрэчы. Амерыканскага прэзідэнта вітаў Раман Герцаг. Клінтан плануе правесці важныя перамовы з канцлерам Гельмутам Колем і міністрам замежных спраў Клаусам Кінкелем.

**"Уорлднэт"**

### ІСПАНЦЫ ТАКСАМА ПРАЦАЎЛАДКОЎВАЮЦЦА

*На рынку рабочай сілы ў Іспаніі назіраецца аслабленне напружанасці.*

Апошнім часам больш за 2,5 мільёна іспанцаў знайшлі працу. Гэта на 17 працэнтаў больш, чым у мінулым паўгоддзі, і самы высокі паказчык з 1985 года.

### КАНЦЭРТ... У ГАЗАСХОВІШЧЫ

*Самыя вядомыя прадстаўнікі стылю "тэхна" збяруцца ў Амстэрдаме і дадуць канцэрт у закінутым газавым сховішчы.*

У канцэрце, які адбудзецца 6 жніўня, прымуць удзел групы "Орбітал", "Сан Электрык", "Міксмайстар Морыс", "Хаер Інтэліджэнс Эйджэнсі" і "Тэлепэсік Фіш".

### ПРАТЭСТАНТЫ... ПРАТЭСТУЮЦЬ

*У адной з турмаў Белфаста адбыўся незвычайны канцэрт.*

Спявалі 100 пратэстантаў, якіх прэвентыўна затрымала паліцыя. Канцэрт працягваўся шэсць гадзін. Такім чынам, пратэстанты выказвалі свой пратэст уладам Ольстэра.

### ПЕРАМОВЫ АДКЛАДВАЮЦЦА

*Паўночная Карэя звярнулася да ўрада Паўднёвай Карэі з просьбай аб пераносе прызначаных на 25 ліпеня перамоў у Пхеньяне на больш позні тэрмін.*

Звязана гэта з нацыянальнай жалобай па памёршым нядаўна кіраўніку КНДР Кім Ір Сене.

**"Уорлднэт"**

### МАДОННА ПАПУЛЯРНЕЙ... ЗА МАДОННУ

*Зорка шоу-бізнесу Мадонна спадзяецца павысіць узровень сваёй папулярнасці, выканаўшы некалькі песень у новым фільме пра Джэймса Бонда.*

Як заявіў прадстаўнік адной з кінакампаній, "тэма Дэйма Бонда заўсёды папулярная. Мадонна лічыць, што з дапамогай гэтага яна захавае сваю папулярнасць".

### СВЯТА ГОРАДА

*Брусель святкуе сваё залатое стагоддзе. Тысячы артыстаў і жыхароў сабраліся на вуліцах сталіцы ў святочных касцюмах па модзе XVI стагоддзя.*

Гэта — час культурнага росквіту бельгійскай дзяржавы. Цяпер Брусель — адзін з сучасных буйнейшых гарадоў Еўропы, аднак асноўную частку горада складаюць старажытныя пабудовы. Жыхары сталіцы свята шануюць сваю гісторыю, звычаі і традыцыі.

### МЕРА ЎЗДЗЕЯННЯ

*Ізраільскія войскі перакрылі ў нядзелю дарогу з Газы ў горад Эрэз.*

Такая мера тлумачыцца тым, што палесцінцы, якія жадаюць працаваць у Ізраілі, пры адмове ў працаўладкаванні ўчыняюць беспарадкі.

(Працяг на 3-й стар.).

Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Людміла КАХАВЕЦ, Віктар КАПАЧЭЛЬ, рэдактар Якаў ЯСЭПКІН.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



## Бізнес-клас

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Дзе вучацца кадры для МТЗ

Сёння ў Мінскім машынабудаўнічым калежы праходзіць навучанне 1450 студэнтаў па такіх неабходных заводу спецыяльнасцях, як апрацоўка матэрыялаў на станках і аўтаматычных лініях; апрацоўка металаў ціскам; вытворчасць і тэхнічнае абслугоўванне станкоў з праграмным кіраваннем і робататэхнічных комплексаў; эканоміка і планаванне ў галінах народнай гаспадаркі.

Калеж з'яўляецца структурным падраздзяленнем Беларускай політэхнічнай акадэміі, што дае магчымасць выпускнікам быць залічанымі ў БПА на льготных умовах для навучання ў скарочаныя тэрміны і атрымаць ступень магістра па машынабудаўнічых спецыяльнасцях.

Падрыхтоўка спецыялістаў у калежы вядзецца на дзвюх ступенях: падрыхтоўка тэхнікаў-механікаў і тэхнікаў-тэхнолагаў; падрыхтоўка малодшых інжынераў.

Акрамя таго, навучэнцы набываюць рабочую кваліфікацыю токара, фрэзероўшчыка, вывучаюць праграміраванне і інш.

Спецыялістаў для МТЗ рыхтуе таксама і Мінскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча № 94 па спецыяльнасцях: слесар-інструментальшчык; слесар механазборачных работ; слесар-зборшчык; станочнік шырокага профілю; слесар-рамонтнік; токар; фрэзероўшчык; электраманцёр па рамонту і абслугоўванню прамысловага і аўтатрактарнага электраабсталявання.

Перападрыхтоўку кіруючыя спецыялісты МТЗ раней праходзілі ў Люберцах Маскоўскай вобласці, у горадзе Растове-на-Доне, а цяпер у асноўным пры Мінскім філіяле інстытута павышэння кваліфікацыі.

Павышаюць свае веды прадстаўнікі завода таксама ў Акадэміі кіравання пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Політэхнічнай акадэміі, Эканамічным універсітэце.

**К.ЮРОЙЦЬ.**

### Прыватным прадпрыемствам — перавага

40 праектаў па энергазберажэнню з розных галін прамысловасці Беларусі гатоў разгледзець і прафінансаваць Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Пра гэта паведаміў кіраўнік Беларускага навукова-вытворчага і інфармацыйнага цэнтра "Энергазберажэнне" Уладзімір Кузьміч. Прычым, перавага будзе аддавацца прыватным, акцыяніраваным прадпрыемствам, або тым, што знаходзяцца ў стадыі прыватызацыі. Прапановы па праектах павінны быць прадстаўлены ў Еўрапейскі банк у жніўні гэтага года. Для папярэдняга разгляду неабходна вельмі кароткае апісанне праекта на англійскай мове, дапамогу ў падрыхтоўцы якога аказвае цэнтр "Энергазберажэнне".

"Крэдыты будуць прадастаўлены пад невялікі працэнт, — адзначыў Уладзімір Кузьміч. — Неабходна толькі своечасова выкарыстаць гэту магчымасць".

### Акцыі "падраслі"

Беларуская фондавая біржа імгненна адрэагавала на факт атрымання Першым рэспубліканскім інвестыцыйным фондам ліцэнзіі Міністэрства па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі, якая дае права пачаць работу з імяннымі прыватызацыйнымі чэкамі грамадзян. На праведзеных 7 ліпеня на біржы таргах, пакет са 100 акцый інвестыцыйнага фонду намінальным коштам у 1 мільён рублёў быў прададзены за 2,5 мільёна.

### У ЗША — па новых візах

Пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь паведаміла, што, пачынаючы з 7 ліпеня, яно выдае новыя, машыначытаемыя візы. Разам з анкетай на неімміграцыйную візу ўсе прасіцелі, незалежна ад узросту, павінны прадставіць па адным фотаздымку. Калі пашпарт выпісаны больш чым на аднаго чалавека, то кожнаму прасіцелю будзе выдавацца асобная віза і таму ў пашпарце павінна быць чыстая старонка для кожнай візы.

**БЕЛІНФАРМ.**

## АТЫ-БАТЫ

# З куляй не сустрэцца

□ **Алег СЛУКА, прафесар**

Перад боем было ціха. Наваколле — лес, поле, недалёкі гарадок не ведалі, што вось-вось загрыміць страшны гром. Прырода ўвогуле не ўспрымае інфармацыю аб вайне, яна толькі падкрэслівае і аздабляе яе неадпаведнасць усяму жывому страшэннымі разбурэннямі.

Аднак бой ужо быў назначаны ваенным камандаваннем, у дэталях распрацаваны штабнымі стратэгамі і вытлумачаны групе прарыву.

Баявая задача была надзіва простая: прарваць глыбокую абарону праціўніка, выйсці яму ў тыл і замацавацца, пратрымаўшыся да надыходу асноўных сіл.

Але і праціўнік добра ведаў стратэгічную важнасць свайго аб'екта і не выключаў магчымага нападу, спробы захапіць плацдарм супрацьлеглай сілай. А таму ён быў напагатове.

Сітуацыя была такой, што вынік бою не залежаў ад нейкага нязначнага фактару, а тым больш ад якойсьці выпадковасці. Усё павінна было вырашыцца дзякуючы зладжаным калектыўным дзеянням і моцным напружаннем кожнага байца. Іншага выйсця ў дадзеным выпадку не было: наступаючыя на полі бою нясуць смерць для абаронцаў, але яны самі з'яўляюцца нічым не прыкрытай мішэнню.

Узвод, які выйшаў на зыходную лінію, неяк нават вельмі мірна ўладкаваўся за арэхавымі кустамі. Высокая чэрвеньская трава ахінула кулямёты і аўтаматы. Хлопцы закурылі, скінулі берэты, расшпілілі каўняры гімнасцёрак. З боку магло падацца, што група юнакоў здарожылася ў доўгім паходзе і адпачывае на чарговым прывале.

Але ж каб было так! Ляжаць бы і глядзець у далёкае сіняе неба, слухаць дыханне свежай летняй лістоты, адчуваць смачны сунічны водар і не паднімацца насустрач стрэлам.

Страшэнна цяжкая гэтая псіхалагічная перагрузка — салдату падняцца ў атаку. Ён адзін тады выходзіць на паядынак з усім сусветам, выстаўляючы за перамогу сваё жыццё і толькі малітва і слёзы маці могуць быць яму заслонай ад злога лёсу.

Каманда "наперад" амаль вырвала салдат з арэшніку... Яны імгненна развярнуліся ў ланцуг і імкліва ахінулі двухпавярховыя будынкі, дзе праціўнік трымаў абарону. Штурмавікі не рухаліся на ворага сцяной. Стварылася ўражанне, што байцы сцелюцца разам з летняй травой. З каманднага пункта цяжка было нават разгледзець, як кароткімі, як магутны скачок, перабежкамі, узвод нібыта пластаўся, а потым заціх перад самай агароджай.

Але гэта быў перапынак на стрэльбішчы. З бясшумнай вінтоўкі, здавалася, гулка вылецела пустая гільза — і варожы вартавы паціху зваліўся ў высокую траву. У адзін момант, нейкае няўлоўнае імгненне, магутная катапульта ўскінула ўзвод.

Бясшумна і хутка, як на стометровай дыстанцыі, рынуліся байцы да бліжэйшых пабудоў. Яны рваліся праз зону прыцэльнага абстрэлу, каб як мага хутчэй мінаваць гэтае лобнае месца, наблізіцца пад прыкрыццем сцен дамоў, дзе можна хоць колькі ўраўняць свае шанцы з абаронцамі.

Амаль кожны баец ледзь не лічыў крокі. Камандзір узвода не аглядваўся па баках. Ён адчуваў цяжкае дыханне сваіх салдат і справа і злева, і пільна ўглядваўся ў маўклівыя вокны невялікага двухпавярховага дома, да якога ўзвод вельмі хутка набліжаўся. "Праскочым", — стукала сэрца лейтэнанта. Яму так хацелася схаваць сваіх байцоў пад выратавальнымі сценамі цагляных дамоў...

Варожыя назіральнікі заўважылі штурмавікоў метраў за трыста да першых будынкаў. З акна другога паверха дома, які стаяў крыху на левым флангу па накірунку наступлення ўзвода, знянацку сакануў буйнакаліберны кулямёт. Пазіцыя кулямётчыка была настолькі ўдалая, што ён некалькімі доўгімі чэргамі фактычна збіў узвод на зямлю.

З боку наступаючых, нібы па сігналу, узарваўся шквал кулямётна-аўтаматнага агню. Трэскат падняўся такі, што суцэльны гул запоўніў усю прастору. Едкі парахавы дым калоў вочы і запаўняў лёгкія, а страляніна паглынула ўсе гукі і нячутна было ні голасу камандзіра, ні залеглых салдат.

Толькі нягледзячы на шквальны агонь, варожы кулямёт не даваў падняцца. З правага фланга была ўзарвана дымавая шашка і вецер паволі пачаў пакрываць наступаючых вартавых зарывам. Байцы манеўравалі, імкнуліся перапаўзаць туды-сюды, каб не даць магчымасці кулямётчыку весці прыцэльны агонь.

Напружанне ўзрастала. З варожага боку да кулямётных чэргаў далучыліся аўтаматныя.

У наступаючых з'явіліся параненыя. Выйшаў з бою кулямётчык правага фланга. Куля прабіла руку. Не зважаючы на дымавую заслону, варожыя салдаты пачалі знаходзіць штурмавікоў сваімі стрэламі.

Аднак пераломам у небяспечнай сітуацыі наступіў тады, калі па кулямётнаму акну ўдарыў баец з падствольнага гранатамёта. Стрэл быў трапны, выбух вельмі моцны. З акна шуганула агонь, паваліў чорны дым — і кулямёт змоўк.

Штурмавікі зноў рынуліся наперад. Не спыняючы агню з аўтаматаў і кулямётаў, прыкрываючы адзін аднаго, кароткімі перабежкамі ўзвод імкнуўся пад ахову сцен.

Дэсантнікі нібы растварыліся ў пад'ездах, вокнах і завулках, праскочылі шырокі двор, углыбіліся ў чарговы дом. І тут з другога боку вуліцы, амаль з усіх вокнаў, разануў шквальны агонь. З правай рукі ад камандзіра ўзвода рэзка выбухнула граната, зваліўся аўтаматчык.

Націск дэсантнікаў быў ашаламляльны. Іх прасоўванне ў глыб абароны праціўніка нібы аб'ядналася са шквалам аўтаматна-кулямётнага агню, узрывамі гранат...

Бой скончыўся. Ён быў вучэбны. Дзякуй Богу, не было ні параненых, ні забітых. Але ўсё астатняе было вельмі жорсткім і страшным. Быццам спісаныя карціны з кінафільмаў пра вайну ў Афганістане ці з амерыканскіх баевікоў пра вайну ў В'етнаме, дзе супер-героі могуць ваяваць супраць воінскіх падраздзяленняў і праліваць патокі крыві.

Беларускія хлопцы з дэсантнага ўзвода смела і з веданнем справы ішлі наперад. Слова "смела" тут ужыта не для параўнання, яно нясе адэкватную нагрузку абстаноўцы бою.

На полі бою рвуцца гранаты, ідзе несупынная страляніна. І калі дэсантнік з разбегу ўзлятае па лесвіцы з рук таварышаў на другі паверх, ён завісае на падаконніку голымі рукамі, які гарыць сапраўдным агнём.

Узрыўпакет — не хлапушка — можа і пальцы адарваць і вочы пашкодзіць, як вельмі небяспечны халасты стрэл ва ўпор.

Аднак кожны хлопец з Асіповіч і Пружан, Шачка і Бягомля, Мазыра і Баранавіч, не пералічым розных адрасоў, — майстар ваеннай справы і валодае зброяй адмыслова. Ён скіраваны на тое, каб выканаць баявую задачу і не любой цаной, а "каб з куляй не сустрэцца", як вобразна гаварыў адзін малады беларускі генерал.

Вось, каб мінаваць гэту ракавую сустрэчу, захаваць маладое жыццё, абараняць Радзіму ад магчымай навалы, маладая беларуска армія ўдасканальвае сваё майстэрства.

Цяжкая гэта справа: маральна, матэрыяльна і палітычна. Вельмі складана пераадолець грамадскую нестабільнасць: патрэбна армія — непатрэбна; добраахвотная, наёмная, альтэрнатыўная служба. А тут яшчэ прадбачлівыя палітыкі могуць спакойна аб'явіць, што армія поўнасцю дэмаралізавалася.

Крыўдна і афіцэрам, і салдатам. Патрэбна такіх "аналітыкаў" запрашаць у воінскія падраздзяленні, вазіць на вучэнні, а можа і прызываць на чарговыя зборы па павышэнню асабістай, баявой і палітычнай падрыхтоўкі.

Нельга і ніхто не мае права распаўсюджваць чуткі, што армія — крымінагеннае асяроддзе. Патрэбна бліжэй пазнаёміцца з асабістым саставам узвода дэсантнікаў, каб пераканацца, што ўсе яны спартсмены высокага класа. Могуць бегаць хутка і з поўнай выкладкай да трыццаці кілаграмаў; страляць метка і амаль з усіх відаў зброі; прыёмы рукапашнага бою ведаць, з парашутам скакаць, машыны вадзіць.

Ван Даму і нават Шварцэнегеру было б цяжка спаборнічаць з нашымі дэсантнікамі, што іншы раз нясмелымі штрышкамі адбіваецца ў амерыканскіх фільмах для маладзёжнай аўдыторыі. Такой вынослівасці патрэбна вучыцца і загартоўвацца кожны дзень.

І гаварыць трэба пра гэта. Пісаць у газетах, паказваць па тэлебачанні і здымаць кінафільмы. У беларускай арміі служаць нашы сыны!

Ідуць адзін за адным самыя светлыя святы — 50-годдзе вызвалення нашай роднай Беларусі, а затым і паўстагоддзе Вялікай Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэта самы лепшы час для стварэння аўтарытэтнай, матэрыяльна забяспечанай і сучаснай баявой беларускай арміі.

Рэспубліка Беларусь са сваімі суседзямі ў вайну ўступаць не будзе. Але на дапамогу прыйдзе, што не раз здаралася ў гэтым тысячагоддзі.

Аднак нельга забыцца і на той аргумент, што наша зямля — гэта шлях ва ўсе канцы свету. Заваёўнікі нас не маглі мінаваць і з мячом праходзілі па гісторыі нашага народа.

Гаворачы пра гісторыю, трэба вельмі мудра асэнсоўваць сённяшняе і заўтрашняе. А сваімі дзеяннямі — уводам войск у любую краіну, нядаўна ў Югаславію, а цяпер не здымаецца пытанне аб пастаўцы "міратворчых сіл" у Закаўказскія рэспублікі, — у хуткім часе можа атрымаць характарыстыку ваеннай арганізацыі.

НАТО застаўся пануючым ваенным блокам ва ўсім свеце, аднак асноўныя яго ваенныя сілы сканцэнтраваны ў Еўропе, г.зн. за Брэстам, за нашай беларускай граніцай.

І, нарэшце, ЗША фактычна засталіся галоўным ваенным камандзірам і яны будуць імкнуцца ў імя "абароны дэмакратыі" трымаць "каля нагі", зразумела, і Рэспубліку Беларусь, якая прымыкае да вялікай Расіі.

Вось і ўвесь, амаль школьны, расклад на пачатак новага стагоддзя. Ідзе новая падзея свету на карысць суперэканамічных дзяржаў, так званы рэванш за сацыялістычную эпоху. Эканамічная экспансія ЗША, Германіі, Японіі і інш. будзе апірацца на магутныя ўзброеныя сілы. Расія хутка выведзе свае войскі з Германіі. А калі ЗША пачнуць забіраць свае? Ці настане час ліквідацыі амерыканскіх ваенных баз вакол Расіі і панабудаваных па ўсім свеце? Зноў-такі да канца гэтага стагоддзя гэта не здарылася.

Для ЗША эканамічна выгадна трымаць свае войскі ў самых важных пунктах планеты, каб "абараняць амерыканскія інтарэсы". Гэта ваенная афіцыйная дактрына. Гэта філасофія ўзбагачэння супердзяржавы праз ваенны дыктат. Аперацыя "Буря в пустыне" амерыканскага паходжання ўслужліва дазволена ААН, пагодніцку асвечана Ватыканам і, на здзіўленне, Масквой, шмат каму адкрыла вочы і даказала, што ваенная дубінка ЗША становіцца ўсё даўжэй і даўжэй.

Таму гэта не для вайны, а для таго, каб ні адзін урад, ні адзін палітык, ні адна супердэмакратычная арганізацыя не маглі памкнуцца да ўзброеных парушэнняў, у Беларусі павінна быць сучасная баяздольная армія.

Не вялікая колькасцю, а моцная майстэрствам і ўзбраеннем, узнагароджаная не кпінамі і пагардай, а поўная годнасці з лозунгам "Народ і армія — адзіны". Цяпер сутнасць гэтага закліку асабліва актуальная.

Таму нельга забыць і страціць вельмі каштоўны і шматгадовы вопыт ратнага майстэрства, пад штандарамі якіх ваявалі беларусы за свабоду і незалежнасць, і помніць, што рэдка якой краіне і народу выпала столькі войнаў і столькі ахвяр, як Беларусі і беларусам.

Зноў недзе ў далечыні разгулялася страляніна. Гэта ішла вучоба, каб не было вайны. Каб з куляй не сустрэцца...

**Фота БЕЛІНФАРМа.**

## НАВІНЫ АД ГАЎДЭАМУСА



*Першы выпуск дыпламаваных спецыялістаў адбудзецца ў гэтыя летнія дні ў Пінскім вучылішчы мастацтваў. Зараз тут займаюцца 120 адораных юнакоў і дзяўчат. Апрача спецыяльнасці, яны спасцігаюць яшчэ і сакрэты акцёрскага і акампаніятарскага майстэрства, харэаграфіі, вывучаюць гісторыю Беларусі, этнаграфію і фальклор палескага краю.*

*Навучэнцы часта выступаюць з канцэртамі ў Пінску і іншых раёнах Брэстчыны. Ансамбль танца вучылішча "Пінская шляхта" дэманстраваў сваё майстэрства на міжнародным фестывалі фальклорных калектываў.*

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.**



## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

### "ЭМАНУЭЛЬ" У БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Апошнім часам звярнула ўвагу на асартымент тавараў у кіёсках "Саюздруку". Зрабіла гэта таму, што шукала ў іх якіясьці сувеніры ў падарунак замежным сябрам. Хацела набыць значкі з гербам нашай дзяржавы, з эмблемамі беларускіх гарадоў, вымпелы гэткай жа тэматыкі ці набор паштовак з краявідамі Беларусі. Як аказалася, такога тавару і блізка тут няма. Бальзамы і крэм-шампуні для мыцця валасоў – калі ласка, выданні сумніцельнага зместу – бяры колькі хочаш, шкарпэткі і панчохі – таксама на вітрыне.

Падумалася, мы што, сапраўды звар' яцелі? Столькі гаворым аб адраджэнні свайго роднага, беларускага, а ў звычайным жыцці нікольку не спрыяем гэтаму адраджэнню. Хіба перавяліся на Беларусі майстры, якія могуць вырабляць з падручных, няхітрых матэрыялаў прыгожыя сімвалы нашай дзяржаўнасці і харастве роднага краю?

Не ведаю, можа зноў-такі вінаватыя ў гэтым законы, што знявечылі нашу эканоміку і робяць невыгаднай працу па вырабу такіх дробязей. Калі так, то не хутка я змагу расказаць сваім замежным гасцям аб харастве і годнасці свайго краю мовай нацыянальных сувеніраў. І застанецца падараваць ім прыгоды прыгожай "Эмануэль", тлумачачы, што заходняя секс-прыгажуня ўшанавала сваёй прысутнасцю нашу славутую Белавежскую пушчу.

**Н.МІХАЙЛАВА.**

## КУР'ЕР "ЧЗ"

### "Бел" плюс "Вест"

*Пяць год споўнілася сумеснаму беларуска-германскаму прадпрыемству "Белвест", заснаванаму ў Віцебску.*

На сёння не толькі ў горадзе, але і ва ўсёй рэспубліцы, бадай, не знойдзеш сям'і, дзе б ні насілі абутак вытворчасці "Белвеста".

Двухтысячны калектыў спецыялістаў і рабочых працуе па-ранейшаму плённа ва ўмовах агульнага эканамічнага крызісу, прадпрыемства навучылася гібка рэагаваць на ўсе сітуацыі рынку. Больш чым тры гады запар яно шые якасны і прыгожы абутак — больш чым па два мільёны пар штогод. Звыш 70 працэнтаў прадукцыі застаецца на Беларусі.

У "Белвеста" шэсць сваіх магазінаў — у Віцебску, Оршы, Полацку, Наваполацку, Гомелі, Смаленску. Цэны ў іх значна ніжэйшыя, бо ва ўласных гандлёвых кропках робіцца 10-працэнтная скідка.

**Яўгенія ВІЦЬБА.**

### Агуркі ад энергетыкаў

*Больш як на паўмільёна беларускіх рублёў агуркоў і памідораў рэалізавалі летась насельніцтву, Капцэвіцкаму агароднінасушыльнаму заводу і сваім рабочым цяплічніцы Петрыкаўскага райаграпрамэнерга.*

Сёлета ў дзвюх тутэйшых цяпліцах ёсць аўтаномнае ацяпленне і сістэма паліву. Яны добра падрыхтаваны да эксплуатацыі ў гэтым сезоне: унесена 25 тон урадлівай глебы, закуплена неабходная колькасць насення, удосталь назапашана тукаў і арганікі. З сярэдзіны мая арганізацыя вядзе продаж насельніцтву кветак і гуркоў, расады капусты, памідораў і тытуню.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

*Больш чым на двое сутак стаў прытулкам для экіпажаў 72-х нямецкіх самалётаў аэрапорт "Віцебск". На сваіх крылатых "маланітражках" спартсмены накіроўваліся на Гульні Добрай Волі ў Санкт-Пецярбург. Ды дзе там! Расійскія ўлады забаранілі ім узлёт у паветраную прастору краіны, спаслаўшыся на недакладнасць і несвоечасовасць афармлення дакументаў. Да таго ж было заяўлена, што аэрадром побач з горадам не гатовы да прыёму лятальных апаратаў. Нямецкія лётчыкі-спартсмены доўга не хацелі верыць, але ўсё ж ім давялося вярнуцца дамоў, памахаўшы на развітанне крылом гасціннаму Віцебску.*

**НА ЗДЫМКУ: У чаканні дазволу на вылет.**
**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## *Сто артыкулаў*

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

*Уладзімір Іосіфавіч НАВІЦКІ, загадчык сектара гісторыі нацыянальна-культурнага развіцця Беларусі XX стагоддзя Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук. Займаецца вывучэннем праблем гісторыі Беларусі савецкага перыяду. Аўтар пяці манаграфічных даследаванняў, а таксама шэрагу прац, напісаных у сааўтарстве. Вядомы як яскравы публіцыст нашага часу.*

Расстралянае нацыянальна-культурнае адраджэнне 20-х гадоў нашага стагоддзя паклала пачатак нараджэнню сталінскага таталітарнага рэжыму, які канчаткова ўсталяваўся з сярэдзіны 30-х гадоў. Яго рысамі з'яўлялася аднапартыйнасць пры ўсеўладна-аўтарытарным характары партыі, ліквідацыя грамадскіх свабод, масавы тэрор, кантроль за ўсімі сферамі жыцця, уключаючы і культуру. Цэнтралізацыя ўлады над асобай і грамадствам была даведзена да абсалюту. Сталінскі рэжым уяўляў сабой сістэму татальнай ідэалагізацыі, мэтай якой з'яўлялася нівеліроўка асобы, стварэнне аднамернага грамадства. Гэта была і своеасаблівая сістэма ідэалагізацыі, якая зрабіла са Сталіна самага-самага, мудрага і вялікага. Справы ж яго гавораць аб адваротным.

Пасля смерці Леніна Сталін ад імя партыі ўзяў на сябе місію "галоўнага" тэарэтыка па нацыянальных пытаннях. Дагэтуль нацыянальная праблема закраналася ў самым агульным выглядзе. Сацыялізм бачыўся грамадствам, мэта якога не толькі збліжэнне, але і зліццё нацый.

Сталін не пайшоў далей панаваўшых уяўленняў. Дасягнуць зліцця нацый лічыў магчымым шляхам папярэдняга выраўноўвання ўзроўняў сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця народаў. Таму ў рабоце "Нацыянальнае пытанне і ленінізм" (1929) увёў паняцце "росквіт нацыянальных культур". На яго думку, пасля этапу "росту і росквіту раней прыгнечаных нацый і нацыянальных моў" пачнецца іх зліццё. Палітыка зліцця моў і культур была афіцыйна прызнана XVI з'ездам партыі (26 чэрвеня — 13 ліпеня 1930 г.).

Ужо пры першых зваротах да праблемы нацыянальных культур Сталін выказаў ідэю аб развіцці нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце культуры. Ён вульгарызаваў паняцце класавасці, партыйнасці мастацтва і літаратуры. Дзейнасць пісьменніка, мастака, кампазітара падпарадкоўвалася метаду сацыялістычнага рэалізму, станаўленне якога завяршылася да гэтага часу.

Усе без выключэння творы мастацтва разглядаліся па прымітыўнай схеме: чырвоны — белы, таварыш — вораг, герой — баязлівец, перадавік — адстаючы і г.д. Абмежаванне творчых пошукаў пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў прывяло да абмежавання патэнцыяльных магчымасцей культуры ў цэлым.

Сталін выступаў супраць усялякага плюралізму, любога іншадумства. Рэпрэсіі з'явіліся вынікам яшчэ так званай тэорыі абвастрэння класавай барацьбы па меры прыбліжэння да сацыялізму. "Трэба мець на ўвазе, — гаварыў Сталін, — што рост магутнасці Савецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэшткаў паміраючых класаў. Менавіта таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх, апеляваць да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супраць Савецкай улады".

Для ажыццяўлення гэтай тэорыі былі створаны "тройкі" і іншыя па-засудовыя карныя органы.

Сталінскі дагмат аб нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце культуры дрэнна ўпісваўся ў рэальнае жыццё. Некаторыя прадстаўнікі партыйна-дзяржаўных структур, інтэлігенцыі Беларусі, тыя, хто змаглі разабрацца ў памылковасці тэорыі "зліцця культур і моў", клапаціліся не толькі аб сацыялістычным змесце, але і аб развіцці беларускай мовы, зберажэнні народных традыцый і г.д. Але гэта расцэньвалася як узмацненне "нацыянал-дэмакратызму". З пачатку 30-х гадоў "нацдэмы" абвінавачваліся ў тым, што нацыянальныя інтарэсы ставілі вышэй за класавыя, дабіваліся рэстаўрацыі капіталізму ў БССР, адрыву рэспублікі ад СССР.

Пачатак развязвання новага этапу рэпрэсій супраць інтэлігенцыі паклалі надрукаваныя ў лютым—сакавіку 1933 г. у газеце "Правда" артыкулы, якія гаварылі аб актывізацыі нацдэмаў у рэспубліцы. У артыкуле "Ачысціць апарат Наркамасветы Беларусі ад класавага ворага" адзначалася, што ў апараце НКА да таго часу заставаліся яшчэ аднадумцы і прадаўжальнікі справы былога наркама А.В.Баліцкага, які быў асуджаны на 10 гадоў і кінуты ў Беламорска-Балтыйскі лагер.

Істэрыю падхапіла пісьмо ў "Правду" настаўніка фізікі і матэматыкі з Бобрскай сямігодкі Крупскага раёна Сцяпуры. У сваім пасланні "Буржуазныя нацыяналісты арудуюць" настаўнік скардзіўся на абвінавачванне яго ў "махровым вялікадзяржаўным шавінізме", падставай для чаго паслужыла невялічкая запіска на імя старшыні сельсавета, напісаная на рускай мове. Кіраўніцтва раёна паставіла пытанне аб зняцці Сцяпуры з работы. Але пасля таго, калі ён паабяцаў размаўляць дома на беларускай мове, вынеслі строгую вымову.

Шырокі водгук у рэспубліцы набыла "справа" Бабаяна, кіраўніка Негарэльскай мытні, які пасля заканчэння Прамысловай акадэміі ўзначаліў установу і павёў барацьбу супраць усяго нацыянальнага. За кароткі тэрмін з мытні была выгнана беларуская мова, ні адзін загад за час працы новага кіраўніка не выйшаў па-беларуску. Дзяржынскі райком партыі палічыў немэтазгодным пакінуць Бабаяна на працы. Але бюро ЦК КП(б)Б адмяніла гэту пастанову. З работ былі зняты два кіруючыя работнікі раёна. У рэспубліцы распачалося згортванне нацыянальнай мовы.

Нацдэмы абвінавачваліся ў адыходзе ад агульнага патоку сацыялістычнага будаўніцтва, у спробах замкнуцца ў нацыянальных рамках, проціпастаўленні інтарэсаў БССР усяму Савецкаму Саюзу. У пастанове ўсесаюзнага ЦК "Аб скажэнні нацыянальнай палітыкі ў БССР", прынятай 2 сакавіка 1933 г., гаварылася, што партыйныя і савецкія органы Беларусі не вялі бальшавіцкай барацьбы за асновы інтэрнацыяналізму, у шэрагу выпадкаў патуралі буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям. 12—14 сакавіка 1933 г. гэту пастанову абмеркаваў пленум ЦК КП(б)Б. Ставілася задача правесці сур'ёзную работу "па ачыстцы ўсіх звёнаў савецкіх, гаспадарчых і культурных устаноў і арганізацый ад перараджэнскіх, гнілых, антысавецкіх нацыяналістычных элементаў, замяняючы іх бальшавіцкімі праверанымі работнікамі".

У заключным слове на пленуме першы сакратар ЦК КП(б)Б М.Ф.Гікала адзначыў, што новае ў нацыянальнай палітыцы заключаецца ў тым, каб далей не насіцца з нацыяналістамі, а "мацней біць па гэтых элементах, адкрыта, смела, без боязі".

Гікалаўская палітыка заключалася ва ўзмацненні рэпрэсій супраць інтэлігенцыі. Афіцыйная прапаганда штучна абвастрала небяспеку нацдэмаўшчыны, вяла пошук "ворага" сярод інтэлігенцыі, асабліва сярод літаратараў. У грознай пастанове бюро ЦК КП(б)Б "Аб фактах прасочвання класава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкую літаратуру БССР", прынятай 28 студзеня 1933 г., адзначалася, што нацыяналістычныя элементы на старонках друку пачалі праводзіць выступленні, скіраваныя супраць Савецкай улады, палітыкі КП(б)Б. Падвяргаўся крытыцы "контррэвалюцыйны" артыкул А.Сідарэнкі "Шлях паэта", прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння Я.Купалы, надрукаваны ў часопісе "Беларусь калгасная". Гэта "контррэвалюцыйнасць" заключалася ў тым, што нацыянальна-культурнае будаўніцтва абвінавачвалася аўтарам у "вялікадзяржаўнай прадузятасці", а Янка Купала на ўсіх этапах сваёй творчасці называўся "вестуном вызвалення, песняром нацыянальна-дэмакратычнага руху". Крытыцы былі падвергнуты творы Лукаша Калюгі і Сяргея Русаковіча, якія ўбачылі свет на старонках часопіса "Полымя рэвалюцыі". Разам з гэтымі аўтарамі крытыкаваўся Платон Галавач як адказны рэдактар часопіса. Яму ставілася ў віну і тое, што як рэдактар шостага тома твораў Я.Купалы, ён прапусціў шэраг адкрыта нацыяналістычных, класава варожых твораў перыяду, калі паэт выразна адлюстроўваў нацыянальна-дэмакратычныя ідэі. Бюро ЦК КП(б)Б кваліфікавала гэта як "антысавецкія вылазкі на літаратурным фронце". Распачалася чарговая кампанія па выкрыццю "класава-варожых" элементаў.

У 1933 г. былі арыштаваны Максім Лужанін, Лукаш Калюга, Юлі Таўбін, Змітро Віталін, Ігнат Дварчанін, Сяргей Русаковіч, Сяргей Астрэйка, Сцяпан Ліхадзіеўскі і іншыя. У наступныя гады былі арыштаваны Андрэй Мрый, Сяргей Грахоўскі, Алесь Звонак, Станіслаў Шушкевіч, Мікола Хведаровіч, Уладзімір Хадыка, Барыс Мікуліч, Алесь Пальчэўскі.

Сумна вядомым стаў дзень 29 кастрычніка 1937 г., калі былі расстраляны Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі, Платон Галавач, Анатоль Вольны, Васіль Каваль, Васіль Сташэўскі, Валерый Маракоў, Тодар Кляшторны. Відаць, у гісторыі сусветнай цывілізацыі такога яшчэ не было, каб у адзін дзень нацыя адразу страціла восем літаратараў!

Масавыя арышты прывялі да таго, што ў сярэдзіне 1938 г. літаратары знаходзіліся ў стане творчай дэпрэсіі, маральнай прыгнечанасці. Як паведамляў сакратар ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнка сакратару ЦК Г.М.Маленкову, "пісьменнікі і найбольш відныя артысты дайшлі да таго, што літаральна варажылі — хто з іх наступным будзе арыштаваны".

Хмары згусціліся над Я.Купалам, Я.Коласам, іншымі пісьменнікамі і паэтамі. 21 лістапада 1938 г. першы сакратар ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнка,

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Фонд "Цярпімасць" за цярпімасць

*"Некалькі разоў даводзілася чуць невялікую інфармацыю пра дзейнасць фонду "Цярпімасць". Цікава, што гэта за фонд, кім ён створаны і якія мае мэты?*

**Л.РАКАВЫ, г. Віцебск".**

Фонд "Цярпімасць" быў створаны ў Варшаве па ініцыятыве групы экуменічных дзеячаў — праваслаўных, евангелістаў, католікаў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей. Ідэя яго стварэння ўзнікла ў працэсе назірання за трагічнымі здарэннямі ў краінах Еўропы, якія вызваліліся ад панавання камунізму. Стваральнікі фонду вырашылі наладзіць грамадскія сувязі, якія выходзілі б за межы адной краіны, за межы Польшчы. Знайсці шляхі, што аб'ядноўвалі б людзей, якім блізкія ідэалы гуманізму і цярпімасці, поўных павагі да годнасці кожнага чалавека, незалежна ад яго нацыянальнасці, палітычных ці рэлігійных пераваг. На першы план фонду выходзіць задача рашучай барацьбы з нацыяналізмам, шавінізмам, а таксама антысемітызмам. Фонд мае намер прыцягнуць да супрацоўніцтва ўплывовых, высакародных, аўтарытэтных людзей з розных краін Усходняй і Заходняй Еўропы. Непасрэднымі мэтамі дзейнасці гэтай арганізацыі з'яўляецца прапаганда сваіх прынцыпаў у сродках масавай інфармацыі, арганізацыя канферэнцый і сімпозіумаў, прысуджэнне ўзнагарод моладзі за навуковыя распрацоўкі, прысвечаныя вызначанай прабламе, арганізацыя калектываў, здольных на імгненныя дзеянні ў месцах канфліктаў, стварэнне і падтрымка дыскусійных клубаў для моладзі, адданай гэтай высакароднай ідэі.

Стваральнікі фонду лічаць, што толькі барацьба людзей за правы на свабоду, за дэмакратыю і свабоду гаспадарчай дзейнасці, а таксама сумесныя дзеянні ў духу цярпімасці змогуць зрабіць наш агульны еўрапейскі дом сапраўды шчаслівым.

*Рубрыку вядзе Святлана КУЛІКОВА. Тэл. 68-29-26.*

## Зямля — ваша, скарб — дзяржаўны

*"Зараз у калгасах раздаюць зямлю ў маёмасць. Цікава, што рабіць уласніку, калі ён на сваім участку знойдзе золата? Будзе яно лічыцца дзяржаўным ці можна забраць яго сабе?*

**К.СЕРГІЕВІЧ, г.Сноў."**

У Міністэрстве юстыцыі паведамілі, што ў такім выпадку факт знаходжання зямлі ва ўласнай маёмасці значэння не мае. Адпаведны артыкул у Грамадзянскім кодэксе не зменены. Таму, як і да пачатку перадачы зямлі ва ўласнасць, так і зараз 25 працэнтаў кошту скарбу належыць таму, хто знайшоў яго, а астатняе — дзяржаве.

## Каму куды, а мне — у гараж

*"Цікава, як часта аўтаамататары ездзяць на сваіх машынах?*

**С.СІДАРУК, г.Брэст".**

Французская статыстыка сведчыць, што 97,2 працэнта свайго жыцця аўтамабілі ўласных уладальнікаў праводзяць на стаянках ці ў гаражы. Астатнія 2,8 працэнта часу займаюць паездкі на адлегласці ў сярэднім 8,5 кіламетра, з іх палова паездак — не далей чым на тры кіламетры. Мяркуецца, мала чым адрозніваецца становішча спраў у нашай краіне, дзе людзі купляюць "цацку" на колах часам толькі дзеля прэстыжу — каб "была".

## Цудоўныя імёны Алаха

*"Чуў, што мусульмане даюць Богу мноства імёнаў...*

**А.МАКУСА, Мінскі раён".**

Каран прадпісвае называць Алаха 99 цудоўнымі імёнамі. Набожны мусульманін павінен як мага часцей упамінаць Алаха і яго імёны. Веданне іх на памяць з'яўляецца прадметам гонару кожнага, хто спавядае Іслам.

Вось некаторыя з гэтых імён па-арабску ў беларускай транскрыпцыі: Алаху (Алах), ар-Рахман (Міласцівы), ар-Рахім (Міласэрны), аль-Малік (Цар), аль-Кудус (Святы), ас-Салям (Мірны), аль-Азіз (Магутны), аль-Халік (Творца), аль-Ахім (Усёведаючы), аль-Гафур (Даруючы), аш-Шакур (Удзячны), аль-Алі (Высокі), аль-Карын (Велікадушны), аль-Хакім (Мудры), аль-Хамід (Слаўны), аз-Захір (Бачны), аль-Батын (Скрытны)...

КРЫНІЦЫ

# "Праўду з... гарэзіяй вымешай"

## Агляд паэтычнай пошты

**□ Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ**

З чаго пачынаецца Радзіма? Як бачна на прыкладзе твораў нашай паэтычнай пошты, для беларускіх паэтаў самага малодшага пакалення, як і для старэйшых, яна ў большасці выпадкаў пачынаецца з роднай сельскай ваколіцы, дзе прайшлі гады маленства і юнацтва, адкуль праляглі сцежкі ў трывожна-таямнічы свет сталасці і ўзмужнення. І гэта зразумела: амаль усе, хто ўжо надрукаваў свае першыя вершы, і тыя, хто на падыходзе да гэтай урачыстай падзеі, нарадзіліся ў вёсцы і ведаюць яе не па расказах. Таму і натуральна, што ў сваёй творчасці маладыя вельмі часта звяртаюцца да роднай зямлі. Менавіта з яе першародна-спрадвечнай і бярэ свой пачатак паэтычнае слова; адсюль пачынаецца і патрыятызм — тая духоўная глеба, на якой выспяваюць запаветныя мары, надзеі, самыя шчырыя і чыстыя пачуцці:

Сонца — палавіна апельсіна —  
за Дняпром  
над вербамі вісела,  
хмарак лёгкакрылых павуціна  
сарамліва ў небе ружавела.  
Лугавы пяшчотна-цёплы вецер  
з берага на роўнядзь  
вод зрываўся,  
за далёкім грэбнем лесу вечар  
нетаропка ў цемень апранаўся...

Гэта пачатак аднаго з вершаў гомельскага журналіста Міколы Старчанкі, у якім малады паэт з любасцю апісвае, як "пушчы дрымучай драўляныя рукі ловяць за хвост залатую маланку", і ўспамінае, як "на бульбянішчы ходзіць птах і гняздоўе сваё шукае" і тую "даверлівую крыніцу", ля якой ён спыняецца, вяртаючыся з горада, — крыніцу як выток натхнення і душэўных сіл. Паэт не толькі ўсхваляе прыгажосць роднага краю, але і многа разважае над гісторыяй і праблемамі сучаснасці, выказвае сыноўскае прызнанне простым працаўнікам вёскі. З такой жа грамадзянскай заклапочанасцю і творчым неспакоем выносяць сёння на суд пробы пяра Н.Захарэвіч, А.Бабаед, Т.Ляшонак, М.Ляшчун, А.Нафрановіч, А.Цімохіна, А.Шушко і некаторыя іншыя маладыя паэты, у чыіх творах тэма любові да зямлі і вернасці ёй раскрываецца плённа і шматабяцаюча.

На вялікі жаль, у паэтычных нізках пачаткоўцаў можна сустрэць нямала вершаў, дзе тэму вёскі вырашаюць павярхоўна і аднабакова, свае пачуцці выказваюць дэкларатыўна, празаічнымі ў горшым сэнсе словазлучэннямі. Як правіла, звяртаючыся да роднага кута, яны ўжываюць словы звычайныя, якія страцілі свой першапачатковы каларыт, — такія, напрыклад, эпітэты, як любімы, песенны, светлы, гаючы... Ідылічна-традыцыйнай стала і тэма вяртання ў родныя "пенаты".

Аднак, кленучыся ў сваёй любові да вёскі, многія маладыя паэты, па сутнасці, не праяўляюць асаблівай цікавасці да жыцця і працы яе жыхароў. Іх паэзія, як можна пераканацца, — гэта паэзія адпачынку на прыродзе, паездак у госці, экскурсій, наведвання бацькоў ці сяброў пад час студэнцкіх вакацый. Карацей, яны глядзяць на сучасную вёску вачыма яшчэ не гараджаніна, але ўжо і не вяскоўца. Адсюль — дэкларатыўнасць разважанняў, дэкаратыўнасць замалёвак...

Асобныя маладыя паэты і паэткі, закранаючы сельскую тэму, ідуць па лініі найменшага супраціўлення: імкнуцца супрацьпаставіць вёску гораду, маўляў, "зямля" — добра, а "асфальт" — дрэнна. Праводзячы ў сваіх творах антыгарадскія матывы, яны па-блазенску ганарацца тым, што памятаюць роднае сяло і яго аселіцу, спрабуюць даказаць, што толькі лес ды выган — адзіная крыніца паэтычнага натхнення. Часам гэта ўвогуле зводзіцца да супрацьпастаўлення першароднасці прыроды ўсяму новаму, тэхнічна прагрэсіўнаму... Памылковая пазіцыя! Крыўдна, што такія інтанацыі, здараецца, гучаць у вершах даволі здольных аўтараў, якія заявілі аб сабе цікавымі вершамі.

Віною тут не буралом!..  
Відаць, чарсцвеем душамі:  
Крычыць (ірвемся напралом)  
з-пад ног гаёк раздушаны.  
Прасекі гонім пад шашу,  
карчуем лес машынамі...  
А дзе падзецца мурашу —  
пад энтээра шынамі?..

Агульнавядома, што другая сусветная вайна прайшла не толькі праз гісторыю ўсяго свету, але і праз чалавечыя лёсы, падзяліла іх на дзве палавіны — да вайны і пасля яе. Ніхто з сённяшніх маладых, натуральна, на той вайне не быў, але ніводзін, як сведчаць іх творы, не забыў пра той час. Памяццю бацькоў і старэйшых братоў, якія змагаліся з ненавісным ворагам, прадыктаваны іх лепшыя вершы на гэтую важную і балючую тэму.

Радзее з часам  
ганаровы строй,  
і толькі слова вечна застаецца.  
Ад іх, старэйшых,  
нам перадаецца  
іх ясны, іх упэўнены настрой.  
Іх вершы —  
іскры Вечнага агню,  
пачэснага жыцця  
святая справа... —

так піша С.Басуматрава ў вершы "Пераправа", які яна прысвяціла памяці вядомага беларускага паэта, удзельніка Вялікай Айчыннай Аляксея Пысіна.

Імкненне асэнсаваць значэнне гістарычных падзей для будучых пакаленняў, глыбей пранікнуць у псіхалогію сучасніка — у простых і дакладных вершах маладога настаўніка з Віцебшчыны М.Камароўскага:

Бывае,  
гаварыць не проста праўду,  
цяжэй бывае праўду  
прамаўчаць.  
Бывае,  
што на тварах носяць радасць,  
калі патрэбна плакаць  
і крычаць...

Тут тое, што называецца асацыятыўнай сувяззю з'яў, але не толькі гэта... Многія вершы, якія М.Камароўскі даслаў у рэдакцыю "Чырвонай змены", яскрава сведчаць, што ён — з ліку тых, хто цалкам прыняў выклік нашага гераічнага і складанага часу.

Цяпер стала модным крытыкаваць маладых паэтаў за... адсутнасць у іх творах маладосці, за лішні прагматызм, за тое, што часам не відно ў іх вершах гэткага, маўляў, юначага запалу.

А што, уласна, гэта такое — маладосць у вершах?

Вельмі шкада, але відавочны факт: даволі часта шукаюць у творах не тую маладосць, якая арганічна ўласціва сучасным маладым паэтам, а тую, якую прывыклі бачыць — з фармальнай кідкасцю верша, тэмпераментам, адкрытым эксперыментам... Але ж сённяшнія маладыя людзі трохі іншыя, чым былі нават, скажам, гадоў дзесяць—пятнаццаць назад. Штосьці яны ведаюць, сапраўды, больш, чым іх папярэднікі, а ў чымсьці, напэўна, адстаюць... Важна, што ў вершах сённяшніх дэбютантаў ёсць галоўныя прыкметы маладосці — не проста жаданне, а гарачая прага ўсебакова спазнаць наш неспакойны час, сказаць аб ім сваё паэтычнае слова.

Паэтычнае слова, сапраўдная паэзія... Даволі часта, разважаючы аб гэтым, успамінаецца трапнае і шчырае выказванне вялікага Янкі Купалы:

Праўду з няпраўдай,  
цноту з гарэзіяй  
вымешай спрытам —  
будзе паэзія.

*Алеся Цімохіна скончыла сёлета маладзечанскую сярэднюю школу № 5, збіраецца паступаць на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны. Яна з дзіцячых гадоў звязала свой лёс з родным словам, літаратурай, з трэцяга класа піша вершы, часта публікуецца ў мясцовым друку. Паэтычныя творы здольнай дзяўчыны змяшчалі і рэспубліканскія выданні: часопіс "Бярозка", газета "Наша слова".*

*У вершах А.Цімохінай адчуваецца як лірычны пачатак, так і грамадзянскасць, любоў да Бацькаўшчыны, яе гістарычнага мінулага.*

*Пажадаем жа ёй поспеху на пачатку нялёгкага літаратурнага шляху.*

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

### *Алеся ЦІМОХІНА*

* * *

Я не хачу жыць заўтра, як і сёння,  
я мару, каб спяшалася пагоня,  
за мной пагоня — дзён, гадоў, вякоў...  
Каб не было відно чужых слядоў!

Хачу я ўзвіцца ўвысь, пабачыць свет,  
каб напісаць акрылены санет...  
Хачу я знікнуць у валошках сноў  
і адпачыць у засені лясоў.

Заснуць, забыцца ля жывой крыніцы  
і паспытаць, прачнуўшыся, вадзіцы,  
і ўранку рушыць у дарогу зноў  
насустрач войскам слаўных ваяроў.

* * *

Белыя бярозы, стромыя бярозы,  
вы стаіце моўчкі ў сумнай цішыні.  
Вашае карэнне рвалі ранкам росным  
і гарэла вёска ў жудасным агні.

Вас і засталося трое за разлогам,  
і цяпер над вамі — неба сінява.  
Вам я пакланюся...  
Ідучы дарогай,  
помнячы — калісьці  
тут прайшла вайна.

* * *

Вось і ноч наступіла, і няма ні душы,  
толькі нейкая птушка заспявала ў цішы.  
Толькі месяц і зоры, толькі бездань начы...  
Маё сэрца мне шэпча: "Не плач, не крычы..."

Хвалі бераг шукаюць, блішча возера сталь,  
мары сеці сплятаюць, я ў іх чарах амаль...  
Але сэрца імкнецца ў нябесную даль,  
дзе і месяц, і зоры пагаслі, на жаль...

Калі ж сонейка ўстане ў бурштынах расы,  
на прастор гэты гляне, згоніць змрочныя сны,  
і запаліць праменняў цудоўныя ўзоры,  
і ў цішы разнясе голас мой па прасторы?..

з гісторыі Беларусі

# І СТАЛІНІЗМ

які 19 ліпеня таго ж года быў абраны на гэтую пасаду з благаслаўлення Сталіна, паслаў яму дакладную запіску "Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках". У ёй на аснове знаёмства з літаратарамі, іх настроямі рабіліся некаторыя высновы. Яны не адрозніваліся навізной, падпявалі афіцыйнай ідэалогіі аб засіллі "нацдэмаўшчыны" ў творчых саюзах Беларусі. На думку Панамарэнкі, "цэнтрштабам нацыянал-фашысцкай прапаганды" з'яўляўся Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі.

У запісцы адзначалася, што па колькасці і якасці выкрываемага матэрыялу Я.Купала і Я.Колас падлягаюць арышту і суду як ворагі народа. У адносінах да Я.Купалы мелася 41 паказанне, Я.Коласа — 31. Наркамат унутраных спраў Беларусі да таго часу запрасіў у цэнтра дазвол на арышт народных песняроў, але санкцыі не далі. Панамарэнка выказваў неспакой тым, што і Янка Купала, і Якуб Колас карысталіся павагай у рэспубліцы. Думка вышэйшага палітычнага кіраўніка была наступнай: іх патрэбна ці арыштаваць, ці, улічваючы абставіны, заклікаць да сумленнай работы. Таму ў заключэнне Панамарэнка пісаў: "Аб адносінах да пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа — я прашу Вас даць мне параду".

Як адрэагаваў Сталін на пастаўленае пытанне, якую даў параду Панамарэнку, сказаць цяжка. Беларускія пісьменнікі не толькі не былі арыштаваны, але хутка атрымалі нават урадавыя ўзнагароды. Такі паварот справы ў далейшым Панамарэнка ставіў сабе ў заслугу. З гадамі ён прыдумаў версію аб сваім дачыненні да зберажэння жыцця шэрагу пісьменнікаў.

31 студзеня 1939 г. быў падпісаны Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні вялікай групы савецкіх пісьменнікаў за выдатныя поспехі і дасягненні ў развіцці савецкай літаратуры. Ордэнам Леніна былі ўзнагароджаны Янка Купала і Якуб Колас, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга — Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў і Эдуард Самуйлёнак, ордэнам "Знак Пашаны" — Пятрусь Броўка і Пятро Глебка.

Вялікія страты панесла тэатральнае мастацтва. Яшчэ ў 1930 г. быў арыштаваны вядомы рэжысёр і акцёр Фларыян Паўлавіч Ждановіч. Ён атрымаў тры гады зняволення і быў накіраваны на будаўніцтва Беламорканала. Вызваліўся датэрмінова, але без права прапіскі ў Мінску і наогул пражывання на Беларусі. Доўга не затрымліваючыся на адным месцы, Фларыян Паўлавіч, нарэшце, трапіў у Чарапавец, дзе ў выніку даносу ў 1938 г. трапіў на другую хвалю рэпрэсій і хутка загінуў.

У 1937 г. пачаліся ганенні на вядомага ў рэспубліцы рэжысёра і акцёра Уладзіслава Галубка, які ўзначальваў Беларускі дзяржаўны тэатр-3. Тэатр у той час "прыпісаўся" ў Гомелі. 16 ліпеня 1937 г. кіраўніцтва па справах мастацтваў пры СНК БССР у дакладной запісцы ЦК КП(б)Б паведамляла, што на працягу доўгіх гадоў тэатр быў засмечаны нацыянал-фашысцкімі элементамі, якія вялі ў ім контррэвалюцыйную, падрыўную работу. Гэтыя людзі запаўнялі сцэну "варожымі драматычнымі творамі, фальсіфікавалі рускія і ўкраінскія савецкія п'есы". У.Галубок абвінавачваўся ў тым, што ён "па-шкодніцку" падбіраў акцёрскія кадры, зыходзячы не з прынцыпаў таленавітасці, а з жадання "акружыць сябе падхалімамі". У выніку з 40 акцёраў толькі 4—5 чалавек, на думку высокай інстанцыі, мелі сапраўдную творчую кваліфікацыю. Уносілася прапанова аб ліквідацыі "варожага гнязда".

8 верасня 1937 г. бюро ЦК КП(б)Б прыняло пастанову аб ліквідацыі тэатра. За некалькі тыдняў да гэтага быў арыштаваны Галубок. Улічваючы тое, што ў тэатры дзейнічалі "варожыя" элементы, прадугледжвалася асабовы склад тэатра пасля дасканалай праверкі перадаць для ўмацавання існуючых тэатраў БССР. Не ўсе прайшлі праверку, тым больш "дасканалую". Разам з У.Галубком былі рэпрэсіраваны і некаторыя іншыя акцёры.

9 жніўня 1937 г. быў арыштаваны народны артыст БССР, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР М.Ф.Рафальскі. Яго абвінавацілі ў тым, што ён з'яўляўся "ўдзельнікам трацкісцкай дыверсійна-шкоднай арганізацыі і займаўся шкодніцтвам". 19 снежня М.Рафальскага прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

У час рэпрэсій загінулі многія вучоныя Беларусі, чым быў нанесены непапраўны ўрон развіццю навукі Беларусі. Як працаваў механізм знішчэння навуковых кадраў — можна прасачыць на лёсе Тамаша Францавіча Домбаля, дырэктара Інстытута эканомікі і віцэ-прэзідэнта БелАН, члена ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР. 7 сакавіка 1935 г. парткалегія Камісіі партыйнага кантролю па БССР накіравала ў Маскву запіску, у якой прасіла дазвол на разгляд справы Т.Ф.Домбаля. Падставай з'явілася тое, што 24 студзеня 1935 г. у дакладзе на сходзе партгрупы Інстытута эканомікі на тэму "XI гадоў без Леніна, пад кіраўніцтвам Сталіна" вучоны выказаў такую думку: "Пасля смерці Леніна Троцкага лічылі пераемнікам Леніна, так як Троцкі ў той час карыстаўся вялікім аўтарытэтам". Пасля такой "крамолы", аб якой паведамілі ў Маскву, нішто ўжо не магло выратаваць вучонага. 29 снежня 1936 г. ён быў арыштаваны і 21 жніўня 1937 г. прыгавораны да выключнай меры пакарання.

У выніку рэпрэсій у 1930 г. былі арыштаваны 33 чалавекі, у 1933 г. — 16, у 1936 г. — 15. Найбольшая колькасць арыштаў прыпадала на 1937 г., калі рэпрэсіям падвергліся 45 чалавек. 25 чэрвеня 1938 г. у запісцы кіраўніцтву ЦК КП(б)Б наркам А.Наседкін зазначыў, што праведзенымі арыштамі "Акадэміі навук нанесены значны ўдар". Але кіраўніцтва НКУС на гэтым не супакойвалася. "Варожыя элементы ў Акадэміі навук яшчэ канчаткова не знішчаны, — даводзіў наркам. — У сучасны момант у Акадэміі працуюць 22 удзельнікі антысавецкага падполля (трацкісты, правыя, нацфашысты і агенты іншаземных разведак), якіх мы распрацоўваем". У выніку "распрацоўкі" ў 1938 г. было яшчэ рэпрэсіравана 27 чалавек.

У час масавых рэпрэсій 1937—1938 гг. па сфабрыкаваных даносах былі арыштаваны прэзідэнт АН БССР І.З.Сурта, акадэмікі Я.М.Афанасьеў, Ц.Л.Бурстын, І.І.Замоцін, Дз.Ф.Жылуновіч, С.Ю.Матулайціс, Б.А.Тарашкевіч, В.А.Сербента, члены-карэспандэнты С.Х.Агурскі, Я.А.Браншцэйн, С.П.Мельнік, Б.М.Шпэнцэр і інш.

Цяжка было працаваць і настаўнікам. Што яны маглі супрацьпаставіць начным арыштам, хто мог за іх заступіцца, калі нават наркамы асветы не маглі абараніць свой гонар і жыццё. Пасля зняцця з гэтай пасады ў студзені 1933 г. А.М.Платуна ён быў рэпрэсіраваны ў 1937 г. Наркамам асветы зацвярджаюць А.А.Чарнушэвіча. У жніўні 1936 г. па палітычных абвінавачваннях яго выключаюць з партыі і знімаюць з работы. У чэрвені 1937 г. па гэтай прычыне ён быў арыштаваны і 28 кастрычніка 1938 г. прыгавораны да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. У далейшым былі таксама рэпрэсіраваны наркамы А.І.Дзьякаў і У.І.Півавараў.

У асабліва невыносныя ўмовы былі пастаўлены настаўнікі з сярэдзіны 1936 г., калі пачалася кампанія па атэстацыі педагагічных кадраў. Яна вылілася ў пошукі "ворагаў" народа, наводзіла жах на настаўнікаў. З 1 красавіка па 5 снежня 1936 г. падвергліся атэстацыі 5896 настаўнікаў з 26896, што складала 22 працэнты ад агульнай колькасці. Але былі атэставаны толькі 1384 настаўнікі — 23 працэнты ад складу тых, хто праходзіў атэстацыю. Неатэставаныя не толькі пазбаўляліся работы ў якасці настаўнікаў, але і ставіліся ў становішча чакання чаргі на арышт. Скаргі "разглядалі" органы НКУС.

Прычыны неатэстацыі былі ўсялякія. Нельга не адзначыць, што ў школе працавала нямала малаадукаваных настаўнікаў. Нельга не пагадзіцца, што такія "настаўнікі" не павінны былі заставацца ў школе. Але галоўны акцэнт рабіўся на тое, каб "ачысціць школу ад класава-варожых элементаў". Такім "элементам" аказаўся настаўнік з Аршанскага раёна В.Курнеенка. Не дапамагло яму прайсці атэстацыю і тое, што ён быў сынам батрака, які ўступіў у калгас у 1929 г., сам да паступлення на вучобу ў Магілёўскі педтэхнікум працаваў пастухом. Прычынай было тое, што ў педтэхнікуме ён нібыта рабіў вялікадзяржаўныя выпады. "Мне вельмі балюча, калі чалавеку, адданаму не на словах, а на справе нашай сацыялістычнай Радзіме, адданаму нашаму вялікаму Іосіфу Вісарыёнавічу, адданаму савецкай школе, не даюць працаваць, лічаць класавым ворагам, — пісаў ён 16 кастрычніка 1936 г. наркаму асветы. — Трэба ісці пасвіць свіней, бо табе ў школе нельга даверыць працаваць".

З разгортваннем атэстацыі органы НКУС павялі татальную праверку настаўніцкіх кадраў. У запісцы наркама ўнутраных спраў БССР Наседкіна першаму сакратару ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнку ад 25 чэрвеня 1938 г. паведамлялася, што з 1057 настаўнікаў, якія працавалі ў горадзе Мінску, на 266 былі сабраны кампраметуючыя матэрыялы. Яны заключаліся ў тым, што 45 чалавек знаходзіліся ў сваяцкіх адносінах з людзьмі, рэпрэсіраванымі НКУС за антысавецкую дзейнасць, 36 — былі выключаны з партыі, 29 — з'яўляліся дзецьмі служыцеляў культу і г.д. У Палескай вобласці з агульнага складу настаўнікаў кампрамат быў сабраны на 274 чалавек, па г.Гомелі і Гомельскаму раёну — на 98, г.Віцебску і Віцебскаму раёну — на 111. Паводле даных 64 раёнаў, у выніку атэстацыі былі звольнены з пасады 1328 чалавек з 13332 правераных.

У выніку рэпрэсій многія настаўнікі без усялякіх падстаў былі арыштаваны. Іх месца займалі людзі малападрыхтаваныя, без спецыяльнай адукацыі. Так, напрыклад, у 1939—1940 навучальным годзе з 39740 тысяч настаўнікаў усходніх абласцей Беларусі вышэйшую адукацыю мелі 3900, незакончаную вышэйшую — 4265. Ды што казаць пра радавых настаўнікаў. Нават нарком асветы Еўдакія Уралава, якая ў ліпені 1938 г. была прызначана на гэту пасаду, мела пачатковую адукацыю.

Неабмежаваная ўлада, дадзеная партыяй Сталіну, шалёная падазронасць, абыякавасць да лёсаў людзей, жудасныя рэпрэсіі супраць інтэлігенцыі — сумлення і розуму народа, абяскровілі нацыю, адкінулі яе развіццё на дзесяткі гадоў назад. І толькі дзякуючы магутнай сваёй спадчыннасці, вялікай духоўнасці, пераможнасці жыцця народ выстаяў, пераадолеў жахі сталінізму, адкінуў усё, што перашкаджала натхнёнай творчай дзейнасці, дасягнуў новых вышынь у розных галінах навукі і культуры.

КУР'ЕР "ЧЗ"

## Евангельскім хорам зацікавілася Транссусветнае радыё

*Хутка мы ўпершыню будзем меці магчымасць набыць запісы хрысціянскіх спеваў. Супрацоўнікі Транссусветнага хрысціянскага радыё ў Германіі плануюць да канца гэтага года выпусціць касеты з песнямі аднаго з самых лепшых хрысціянскіх калектываў у рэспубліцы — хору мінскай царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў "Галгофа".*

Хор мае даўнюю гісторыю — яшчэ з даваеннага часу. Зараз у яго рэпертуары не толькі спевы хрысціянскіх гімнаў і песні сучасных хрысціянскіх кампазітараў, але і творы класікаў — Глінкі, Моцарта, Бетховена, Вердзі, Бартнянскага, Гендэля і шмат іншых. У час так званай публічнасці хор першым з хрысціянскіх музычных калектываў "выйшаў на сцэну". Сёння яго аўдыторыя — не толькі слухачы прадпрыемстваў і навучальных устаноў, але і тыя, хто знаходзіцца ў бальніцах і турмах.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

## Люблін становіцца бліжэй

*Не так даўно дэлегацыя віцебскіх медыцынскіх работнікаў вярнулася з Лübліна, дзе брала ўдзел у IV люблінскіх навуковых сустрэчах па пытаннях псіханеўралагічных захворванняў.*

Гэта не першая сустрэча з польскімі калегамі. Летась яны прыязджалі да нас у Віцебск на аналагічны форум, збіраюцца прыехаць сюды з лекцыямі і сёлета.

## Навошта рыбам пластмаса?

*На дарозе Лепель—Орша, ля вёскі Чэрцы, трапіў у аварыю "КамАЗ", які перавозіў бочку з невядомым рэчывам белага колеру.*

Частка рэчыва вылілася ў мясцовае возера. Як паведамілі лепельскія эколагі, гэта быў адзін з кампанентаў для вытворчасці пластмасы — ланс, і для рыбы ён не шкодны. Літаральна праз некалькі дзён, на тым жа самым месцы пайшлі пад адхон "Жыгулі". У абодвух выпадках абышлося без ахвяр. Фартуна? Рыба, як заўсёды, маўчыць. А што наконт гэтага думаюць мясцовыя дарожныя службы, якія нават не паставілі шчыткоў на небяспечным участку дарогі?

## Усё перамелецца...

*У Паставах вырашылі стары млын пераабсталяваць пад Дом рамёстваў. Для гэтага ўжо атрымана шэсцьдзесят мільёнаў рублёў з рэспубліканскага бюджэту.*

Цікава, што сродкі паступаюць праз абласное ўпраўленне... рэстаўрацыі помнікаў. Ці з'яўляецца Дом рамёстваў большым помнікам, чымся стары млын, — віламі па вадзе пісана. Вядома толькі, што вада ўпарта змагаецца з "рэстаўратарамі", не жадаючы змывацца з наседжанага месца. Млын жа вадзяны.

**Уладзімір МІХНО.**

## Просім адклікнуцца...

*Следчы камітэт МУС Беларусі расследуе крымінальную справу па факту раскрадання грашовых сродкаў работнікамі кааператываў "Сяброўка" і "Металіст" — Савіцкім П.І., Маркавым П.Л. і прыватнымі прадпрымальнікамі Скуратовічам Э.І., Курыловічам А.А., Мацвеевым В.І., Жукавым Г.Л. і іншымі, якія ў 1993 годзе, уступіўшы ў злачынную змову паміж сабой, сістэматычна заключалі фіктыўныя дагаворы з рознымі прадпрыемствамі, таварыствамі, арганізацыямі Беларусі на пастаўку металу. Ажыццяўляць такія пастаўкі ў іх не было намеру, а грошы, пералічаныя на разліковыя рахункі ў парадку перадаплаты за метал, яны раскрадалі.*

Кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, якім дзеяннямі ўказаных асоб нанесены матэрыяльны ўрон, просім звярнуцца ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь: Мінск, вул. Гарадскі вал, 4, тэл. 297-764.

## Пацярпеў... Далі

*Эксперты па мастацтву былі вельмі здзіўлены, калі высветлілася, што карціна славутага іспанскага мастака Сальвадора Далі была павешана "дагары нагамі" не дзе-небудзь, а ў Лонданскай галерэі.*

На працягу трох тыдняў карціна "Жонкі 4 рыбакоў з Кадакеса" знаходзілася ў такім стане.

## Вінцо са свінцом

*Калі ў вас баліць галава, а напярэдадні вечарам вы ўжылі бутэльку віна, гэта, магчыма, і не пахмелле, а наступствы ўздзеяння на арганізм свінцу.*

Урачы праверылі 19 гатункаў французскага віна, якое выраблялася з вінаграду, сабранага ў раёне каля 2 аўтастрад. Высветлілася, што ў віне ўраджаяў розных гадоў утрымліваецца свінец.

## Рэкордны кошт рарытэта

*Старажытны камень з асірыйскім надпісам, што знойдзены ў сцяне школьнага буфета ў Паўднёвай Англіі, быў прададзены за рэкордны для любой рэчы старажытнасці кошт — 12 мільёнаў даляраў.*

Арганізатары аўкцыёну "Крысці" паведамілі, што невядомы пакупнік заплаціў у 10 разоў больш за першапачатковы кошт.

Лічаць, што знаходка з'яўляецца дакладнай копіяй каменя, страчанага ў XIX стагоддзі ў даліне ракі Тыгр.

## Тытунь і спорт побач?

*Члены брытанскага парламента маюць намер забараніць паказ па тэлебачанні спартыўных спаборніцтваў, спонсарамі якіх з'яўляюцца тытунёвыя фірмы.*

Як паведаміў адзін з парламентарыяў, суседства каляровых спартыўных падзей з тытунёвымі вырабамі з'яўляецца шкодным для маладых людзей. Да таго ж, тытунь і спорт — рэчы несумяшчальныя ўвогуле.

Тытунёвыя фірмы трацяць на спансіраванне спаборніцтваў да 240 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў у год. Забарона на трансляцыю такіх спаборніцтваў можа тычыцца матчаў па рэгбі і крыкета, вельмі папулярных у гэтай краіне.

## Дэманстрацыя ў Буэнас-Айрэсе

*Больш за 50 тысяч аргенцінцаў выйшлі на вуліцы Буэнас-Айрэса, каб выказаць пратэст прэзідэнту Карласу Мэнэму і ўсяму ўраду. Жыхары сталіцы пратэстуюць супраць эканамічнай палітыкі, якую праводзяць улады.*

Гэтая дэманстрацыя — адна з самых буйных і вострых акцый у Аргенціне за апошнія 5 гадоў. Яе ўдзельнікі пагражалі прэзідэнту генеральнай забастоўкай у жніўні, патрабуючы стрымаць карупцыю, а таксама ўнесці карэктывы ў ультра-ліберальную палітыку.

## Бонскія сустрэчы дэ Клерка

*У Боне знаходзіцца віцэ-прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Фрэдэрык дэ Клерк.*

Пад час сваёй тыднёвай праграмы ён сустрэнецца з міністрам эканомікі Германіі Гюнтэрам Рэксрадтам, міністрам замежных спраў Клаўсам Кінкелем і прэзідэнтам Раманам Герцагам.

## Выбух у тунелі

*У Германіі ў горадзе Готхальдзе прагучаў моцны выбух. У тунелі пацярпеў аварыю грузавік.*

Наступствы выбуху нанеслі вялізны ўрон: праезд праз тунель стаў немагчымым. Прычыны аварыі высвятляюцца.

## Ахвяры фундаменталістаў

*Дзве жанчыны загінулі ў прыгарадзе Алжыра ад рук ісламскіх фундаменталістаў.*

Адна з іх была забіта ў сваёй хаце ўдарамі нажа. Другая — да смерці збіта ў населеным квартале.

## Новыя сведчанні

*Вадзіцель лімузіна, які адвозіў О.Джэй Сімпсана ў аэрапорт Лос-Анжэлеса ў дзень, калі былі забіты яго былая жонка Ніколь Браун і яе сябар Рон Голдман, даў паказанні ў судзе.*

Шафёр заявіў, што Сімпсана не было дома ў 10.25 вечара, калі ён пазваніў яму першы раз. Не было яго і ў 10.50. Як лічаць следчыя, забойства адбылося ў гэты час. Сведка сказаў, што Сімпсан падняў трубку толькі пасля 11 гадзін вечара і растлумачыў яму, што "моцна спаў".

